# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ |
|---|---|---|

№ 12-13 (547-548) Нядзеля 26 сакавіка 1961 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# У 43-юю гадавіну Акту 25 Сакавіка

Векапомны Акт 25 Сакавіка 1918 году быў завяршэньнем і ўкаранаваньнем нацыянальна-вызвольнага руху дзяржаўна-незалежніцкага характару, які быў запачаткаваны Першым Усебеларускім Кангрэсам у сьнежані 1917 году. Гэты трохмесячны пэрыяд, які дзеліць Акт 25 Сакавіка ад Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, дарма, што вельмі кароткі ў часе, зьяўляецца настолькі поўны зьместам і багаты сваей палітычнай спадчыннасьцю для будучыні, што творыць сабой як-бы цэлую эпоху ў гісторыі нацыянальна-вызвольнага змаганьня беларускага народу.

Значаньня Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ніяк і ніколі нельга не даацэньваць. Яно з кажнага гледзішча — юрыдычнага, палітычнага й ідэялягічнага — вялізарнае. Калі-б ня было гэтага Кангрэсу, тады й Акт 25 Сакавіка, які арганічна зь яго выплывае й на ім базуецца, быў-бы адно звычайнай нацыянальнай маніфэстацыяй, а не выяўленьнем народнае волі, якім ён, якраз дзякуючы сваей прычыновай сувязі з Кангрэсам, зьяўляецца.

Юрыдычная сіла Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ляжыць у тым, што ягоныя ўдзельнікі ня былі прыпадковымі, але паходзілі з народных выбараў, праведзеных на тэрыторыі Беларусі. Ужо той факт, што із агульнага ліку 1.872 усіх удзельнікаў Кангрэсу 1.167 мела пастанаўляючы, а 705 дарадчы голас, паказвае, што гэта абазначае, што **Кангрэс быў поўнасьцяй законным выяўленьнем волі беларускага народу і меў поўнае й легальнае права пастанаўляць аб ягоным лёсе.**

Другое важнае значаньне Кангрэсу, якое неадлучна вяжыцца зь першым, гэта ягоны дэмакратычны характар. Як зазначана вышэй, дэлегаты Кангрэсу паходзілі з выбараў, а не з назначэньня ці звычайнага прыпадку. Гэты мамэнт выбарнасьці дастаткова вызначае дэмакратычны характар як самога Кангрэсу, гэтак і ўсіх наступных палітычна-дзяржаўніцкіх актаў, якія з пастановаў Кангрэсу будуць выцякаць у будучыні, прычым гэты дэмакратызм быў у кажным выпадку дэмакратызмам заходняга тыпу, значыцца, дэмакратызмам запраўдным, агульнанародным. Гэта й вызначае палітычны характар, абапёрты на дэмакратычных прынцыпах, усяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

І напасьледак, трэйці й найважнейшы мамэнт Кангрэсу, мамэнт у першую чаргу ідэялягічны, гэта **абвешчаньне ім Беларусі асобным гаспадарствам у форме дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі.** Трэба ведаць, што ўсе дасюлешнія беларускія дзяржаўніцкія канцэпцыі далей тэрытарыяльна-культурнай аўтаноміі або фэдэрацыі ў рамах расейскае імпэрыі ня выходзілі. Канцэпцыя-ж дзяржаўнай незалежнасьці ўпяршыню зарадзілася й была праклямаваная толькі на Першым Усебеларускім Кангрэсе.

Такім чынам Першы Ўсебеларускі Кангрэс стварыў юрыдычную, палітычную й ідэялягічную базу для Акту 25 Сакавіка.

Як ведама, Першы Ўсебеларускі Кангрэс быў разагнаны бальшавікамі, але, ня гледзячы на гэта, сваю працу закончыў і сваё аснаўное заданьне выканаў. Назаўтрае пасьля разгону, 31 сьнежаня 1917 году Кангрэс сабраўся ў іншым месцы й закончыў сваю дзейнасьць тым, што перадаў свае паўнамоцтвы да часу магчымых вольных выбараў у Беларусі Радзе Кангрэсу, якая тут-жа вылучыла свой Выканаўчы Камітэт у складзе 71 чалавека, які й павёў далейшае змаганьне за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Дык і тут юрыдычная законнасьць ворганаў Кангрэсу й іхнае дзейнасьці, якая, цераз паасобныя этапы, прывяла да Акту 25 Сакавіка, была поўнасьцю захаваная.

Рада Кангрэсу, змушаная ў умовах бальшавіцкае акупацыі Беларусі спачатку дзеіць канспірацыйна, пасьля кароткага часу, аднак, выходзіць з падпольля й 19—20 лютага 1918 году ў Менску пераймае ўладу ў свае рукі й 21 лютага выдае аб гэтым сваю Першую Ўстаўную Грамату. У ёй, між іншага, гаворыцца: «Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакрацыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, **абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі** для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага й прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам».

Адначасна зь пераняцьцем улады ўтвараецца першы нацыянальны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі на чале зь Язэпам Варонкам, які называецца Народным Сакратарыятам Беларусі.

Наступным дзяржаўным актам Рады Кангрэсу было абвешчаньне 9 сакавіка 1918 году Другой Устаўной Граматы, якая ў вагульных нарысах давала першыя асновы дзяржаўнае канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі. У Грамаце абвяшчаецца «свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня». Далей гаворыцца, што «ў рубяжох Беларускае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі», пастанаўляецца, «што права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры й нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі». Далей усім працоўным Беларусі «ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень».

Такім чынам, Другая Ўстаўная Грамата абвесьціла асноўныя палітычныя й сацыяльныя прынцыпы й законы дзяржаўнага ладу Беларускай Народнай Рэспублікі, якія, як бачым, вызначалі гэты лад, як **шырока дэмакратычны** паводля заходняга разуменьня дэмакратычнасьці.

19 сакавіка 1918 году Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Кангрэсу пераймяноўвае сябе ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якая на сваім гістарычным паседжаньні ў Менску ў ночы з 24 на 25 сакавіка 1918 году абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай дзяржавай, у выдадзенай тут-жа Трэйцяй Устаўной Грамаце, якую прынята называць Актам 25 Сакавіка, аб гэтым гаворыцца:

**«Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі».**

Гэткі ў сваіх галоўных этапах быў шлях да гістарычнага Акту 25 Сакавіка.

*

Гэтаму Акту ня суджана было зьдзейсьніцца. Бальшавіцкая Расея, якая пераняла ў спадчыне імпэрыялістычную й русыфікатарскую палітыку царскае Расеі, адразу-ж, з самага пачатку ўсёй сваей брутальнасьцю фізычнае сілы стала ўпоперак дарогі незалежніцкіх імкненьняў беларускага народу.

Першым брутальным гвалтам бальшавізму над сьвятымі ідэяламі беларускага народу было разагнаньне Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Пасьля гэтага, падобныя ў сваіх мэтах і накіраванасьці, хоць і розныя сваёй формай гвалты ня спыняюцца й да сяньняшняга дня.

Беларускі незалежніцкі рух, які праявіўся з магутнай сілай і выліўся ў форму беларускай дзяржаўнасьці, ня мог астацца без адпаведнай рэакцыі з боку бальшавікоў. На падмену зьнішчанай імі Беларускай Народнай Рэспублікі, яны змушаныя былі стварыць свой собскі эрзац беларускай дзяржаўнасьці ў форме БССР. Але паколькі БНР была створаная сіламі й воляю самога народу, патолькі БССР, як і наагул савецкая ўлада ў Беларусі была творам беларускаму народу чужым, антынародным, накінутым беларускаму народу звонку, у тварэньні якога беларускі народ ня толькі ня прыймаў ніякага ўдзелу, але й змагаўся супраць яго ўсякімі даступнымі яму спосабамі, улучна із збройнай акцыяй.

Аб тым, што БССР, а разам зь ёй і савецкая ўлада ў Беларусі была накінутая беларускаму народу супраць ягонае волі сілаю насланага ў Беларусь чужога расейскага элемэнту, прызнаюцца з усей адкрытасьцяй і самі бальшавікі. Спасярод многіх фактаў гэтага прызнаньня, прывядзём агульнаведамыя, але найбольш яскравыя тры наступныя:

Былы міністар МВД БССР Л. Цанава ў сваей кнізе «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков» (Менск, 1951, т. II, бач. 726) піша: **«Перамогу савецкай улады ў Беларусі ў значнай меры забясьпечыла тая акалічнасьць, што тут праходзіў заходні фронт, на якім былі сканцэнтраваныя масы работнікаў і сялянаў цэнтральных раёнаў Расеі, апранутых у жаўнерскія шынэлі».**

Яшчэ выразьней сьцьвярджае гэты факт шматгадовы сакратар ЦК КП(б)Б В. Кнорын, які ўславіўся жорсткім змаганьнем зь беларускім нацыянальным рухам у БССР. У сваей брашуры «1917 год в Белорусии и на Западном фронте» (Менск, 1925, бач. 3) ён піша: **«Засавальніцай і творцай камуністычнай арганізацыі была старая камуністычная гвардыя, закінутая на Беларусь вайной зь Ленінграду, Масквы, Іванава».** Далей ён цьвердзіць, што **«ад расейскага бальшавізму, ад РСДРП (бальшавікоў), а не ад нацыянал-сацыялістычных партыяў ідзе гісторыя камунізму на Беларусі».**

Ня менш вымоўнае можа быць сьцьверджаньне й аднаго зь беспасярэдных сьветкаў тагачасных падзеяў беларускага бальшавіка Е. С. Канчара, які ў сваёй кніжцы «Белорусский вопрос» (Петраград, 1919, бач. 25) пісаў: **«Савет Народных Камісараў утварыўся ў лістападзе 1917 году ў Менску на франтовым зьезьдзе, але ні беларускія вайсковыя аддзелы, ні беларускія рады сялянскіх і работніцкіх дэпутатаў ня бралі ўдзелу ў выбарах гэтых камісараў».**

Пазьнейшая й сяньняшняя бальшавіцкая прапаганда, цынічна хвальшуючы гістарычную праўду, з нахабнай назойлівасьцю цьвердзіць, што БНР і ўвесь нацыянальна-незалежніцкі рух, што вакол яе разьвіваўся — гэта справа адно невялічкай кучкі беларускіх нацыяналістых, якія, стаўшы на службу рэакцыі, мясцовай буржуазіі, міжнароднага капіталу й замежнай інтэрвэнцыі, імкнуліся пры помачы БНР адарваць Беларусь ад савецкай дзяржавы й падпарадкаваць яе сілам замежнага капіталу. Беларускія народныя масы — бессаромна цьвердзіць гэтая прапаганда — не пайшлі за беларускімі нацыяналістымі й створанай імі БНР, затое, наадварот, усімі сіламі падтрымалі бальшавікоў у ўстанаўленьні імі савецкай улады ў Беларусі.

Вышэй прыведзеныя сьцьверджаньні выдатных прадстаўнікоў бальшавізму ў Беларусі, якіх у сымпатыях да БНР западозрыць ніяк нельга, даюць аўтарытэтнае сьвядоцтва якраз адваротнага. Антынароднасьць і чужацкасьць бальшавізму ў Беларусі балюча адчувалі та-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


## *Да Суродзічаў у Вольным Сьвеце*

**У сяньняшні дзень Беларусы ў Вольным Сьвеце ўрачыста адзначаюць 43-юю гадавіну Акту 25 Сакавіка, якім Беларусь была абвешчаная вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікай.**

**Хаця ў выніку перавагі брутальнай фізычнай сілы маскоўскага бальшавізму гэтаму Акту ня суджана было збыцца, аднак нацыянальныя незалежніцкія ідэі, засеяныя ў беларускую народную глебу ў часы падзеяў 1917—1918 гадоў, не загінулі, але й далей запладняюць імкненьні Беларускага Народу й узбройваюць яго на змаганьне за захаваньне сваей нацыянальнай эгзыстэнцыі й вызваленьне. Гэтыя ідэі ляглі ў васнову й нашай нацыянальнай дзейнасьці ў Вольным Сьвеце й даюць нам сілы ператрываньня ў сяньняшні цяжкі для Беларускага Народу час бальшавіцкага паняволеньня.**

**У гэты вялікі для нас дзень я вітаю Вас, Дарагія Суродзічы, і заклікаю да ахвярнай, згоднай і творчай працы дзеля вызваленьня нашае Бацькаўшчыны з пад ярма бальшавіцкае няволі й адбудаваньня абвешчанай 43 гады таму назад беларускае дзяржаўнасьці.**

**Няхай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!**

**Парыж, 25 сакавіка 1961 г.**

**Мікола Абрамчык**
**Прэзыдэнт Рады БНР**

# Думкі ў голас

Падобна да таго, як у рэлігійныя сьвяты ў кажным чалавеку абуджаецца пачуцьцё неабходнасьці праверыць свае дачыненьні да Усявышняга, — у нацыянальныя сьвяты мы адчуваем сільней, як звычайна, патрэбу праверкі нашай грамадзкай, палітычнай, нацыянальнай дзейнасьці, каб на базе мінулага дасьветчаньня, улічыўшы канкрэтныя абставіны, шукаць новых, лепшых шляхоў для ажыцьцяўленьня ідэялаў, вера ў веліч і справядлівасьць якіх ня мінае ні пад узьдзеяньнем часу, ні месца нашага прабываньня, ні умоваў нашага быту.

Для новай беларускай эміграцыі, эміграцыі палітычнай, угодкі Акту 25-га Сакавіка — Акту, які стаўся ня толькі ўвасабленьнем нашых людзкіх і нацыянальных шуканьняў, але і ў найбольшай меры вызначыў наш жыцьцёвы шлях, зьяўляюцца найлепшай нагодай паддаваць аналізе й шчырай крытыцы тыя аспэкты сучаснага палажэньня ў сьвеце, якія найбольш беспасярэдна закранаюць нашыя інтарэсы, інтарэсы ўсяго беларускага народу.

Напачатку мы можам з задаваленьнем адзначыць, што калі наша эміграцыя й ня выкарыстала ўсіх сваіх магчымасьцяў, яна ўсё-ж прарабіла вялізарную працу ў кірунку інфармаваньня вольнага сьвету аб гісторыі беларускага народу, ягоных культурных і духовых вартасьцях, ягоных спрадвечных прыродных імкненьнях да індывідуальнай і нацыянальнай свабоды й справядлівасьці і аб ягоным сучасным палажэньні ў сыстэме татальнага расейска-бальшавіцкага прыгнёту.

Праводжаная намі акцыя мабілізацыі грамадзкай думкі Захаду да пратэсту супраць зьдзекаў над нашым народам сустрэла пазытыўную ацэну як у краінах вольнага сьвету, гэтак і сярод засуджаных на маўчаньне нашых суродзічаў на бацькаўшчыне. Беларуская эміграцыя, як і эміграцыя іншых паняволеных камунізмам народаў, прыкладала й прыкладае ўсе высілкі, каб перад грамадзкасьцяй некамуністычнага сьвету выкрыць агрэсыўныя мэты й падступныя мэтады маскоўскага бальшавізму, ськіваваныя да ягонай нязьменнай мэты — паняволеньня ўсяго сьвету. Мала таго, добра разумеючы сутнасьць бальшавізму і ягоную палітычную й дывэрсыйную тактыку, мы не пакідаем зьвяртаць увагі Захаду на неабходнасьць зьмены ягонай палітыкі ў дачыненьні да камунізму, бо мы перакананыя, што ў няпрымірэнчым змаганьні з бальшавіцкай тыраніяй свабода зможа затрыюмфаваць толькі тады, калі вольны сьвет сваю — згубную на далёкую мэту — палітыку «паўстрымоўваньня» камунізму замяніць больш канструктыўнай палітыкай дыпляматычнага й ідэялягічнага наступу. Гэта мы павінны будзем рабіць і далей, бо мы ўпэўненыя, што толькі такім шляхам мы зможам спрычыніцца да прысьпешаньня прыходу ў сьвеце тых абставінаў, якія дазволяць і нашаму народу ажыцьцявіць ягоныя людзкія правы й дэмакратычныя свабоды, сфармуляваныя ў Акце 25-га сакавіка.

Спыняючыся сяньня на гэтай тэме, разгледзім коратка тыя мамэнты, якія, на нашую думку, Захад недаравальна занядбоўвае на шкоду сабе і ўсёй справе змаганьня за свабоду ўва ўсім сьвеце.

Галоўная ўвага Захаду зьвернутая цяпер, як і раней, на ўмацаваньне й павышэньне сваёй абароназдольнасьці. Гэта зусім правільна, і такі палітычны кірунак будзе правільным і ў будучыні аж да таго часу, пакуль унутры камуністычнага блёку не адбудуцца радыкальныя зьмены, у выніку якіх была-б адкінутая агрэсыўная камуністычная ідэялёгія.

Другая важная праблема — гэта дапамога слабаразьвітым краінам, якая, ня гледзячы на сваю палітычную падкладку, носіць выразны гуманітарны характар і, як такая, карыстаецца зразумелым агульным прызнаньнем.

На разьвязаньне гэтых дзьвюх праблемаў Захад затрачвае вялізарныя матарыяльныя й людзкія рэзэрвы. Прыгадаем спрэчкі паміж ЗША і Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай за вышыню дапамогі слабаразьвітым краінам або заплянаванае прэзыдэнтам ЗША Кэнэды стварэньне «Корпусу міру». Такім чынам, зь ініцыятывы Крамля, Захад пераносіць цяпер свае ўсё яшчэ толькі абаронныя пазыцыі на афрыканскі й азіяцкі кантынэнты, каб там, затратай вялізарных рэсурсаў, змагацца супраць... фактычна голай камуністычнай прапаганды. Зразумела, што дапамога слабаразьвітым краінам патрэбная так ці йнакш. І гэтыя краіны толькі выйграюць ад таго, што існуюць два блёкі, якія змагаюцца за іхную прыхільнасьць. Аднак змаганьне за маладыя краіны Азіі й Афрыкі, важнасьці й неабходнасьці якога мы не запярэчваем, зьяўляецца толькі адным з эпізодаў ідэялягічнай, эканамічнай і палітычнай вайны дзьвюх сыстэмаў і яно ня вырашыць усяго канфлікту. Тое, ці зможа калі-небудзь сьвет жыць ува ўмовах сапраўднага міру і сапраўднай свабоды, у канчальным выніку будзе залежаць ад лёсу паняволеных камунізмам народаў, у тым ліку й нашага народу. А лёсу гэтых народаў Захад, на вялікі жаль, прысьвячае найменш увагі.

Гаворачы гэта мы маем на ўвазе не эканамічную дапамогу, бо мала шансаў, каб пры сучасных абставінах у камуністычным лягеры такая дапамога магла дайсьці да народу. Мы маем на ўвазе маральную падтрымку.


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Кастусь Каліноўскі

## (Да 97-й гадавіны сьмерці)

22 (10) сакавіка 1864 году ў Вільні на царскай вісельні на 26 годзе жыцьця загінуў вялікі сын беларускага народу Кастусь **Каліноўскі**. Барбарскі прыгавор Мураўёва-вешацеля быў прыведзены ў выкананьне а 10-й гадзіне раніцы на пляцы Лукішкі пры вялікім канвоі расейскага войска й агромністым натоўпе жыхарства Вільні й ейных ваколіцаў. «Была ясная, халодная раніца, — паведамляе адзін із нагляднікаў гэтае маскоўскае расправы. — Каліноўскі ішоў на кару сьмела... Прыйшоўшы на кару, ён стаў тварам да шыбеніцы й толькі часамі кідаў свой позірк на далёкі натоўп. Калі яму чыталі канфірмацыю, ён стаў рабіць заўвагі... Назвалі яго імя — дваранін Вікеньці Каліноўскі. Ён усклікнуў: «У нас няма дваран, усе роўныя!»

Падобна Кастусь Каліноўскі трымаўся таксама на допытах. Ён гаварыў усю праўду ў вочы каральнікам і не прасіў прабачэньня. Ня выдаў ён нікога із сваіх пасьлядоўнікаў, абараняючы сваю й іхную праваў. Пайменна, у вапраўдальнай запісцы гэтым каральнікам ён кідаў: «Агітатары, якія зьбіраюцца з усіх канцоў Расеі, нічога ў нас ня зробяць у справе аб'яднаньня, ашукаюць толькі сябе, урад, ня выканаюць мэты й давядуць край наўсуперак сваім жаданьням да новых ахвяраў, да новых народных няшчасьцяў. Пакуль урад не набудзе спачуваньня ў запраўды адукаваным клясе тутэйшага насельніцтва, да таго часу слова Расеі ня знойдзе водгуку ў сэрцах Літоўцаў». Іншымі словамі, пакуль Масква не адмовіцца ад палітыкі нацыянальнага прыгнечаньня й не заменіць бізун «аб'яднаньня» прызнаньнем нацыянальных правоў народу, да таго часу гэты народ будзе праводзіць сваё вызвольнае змаганьне.

У сваім перадсьмяротным пасланьні — «Пісьме з-пад шыбеніцы» — да беларускага народу Кастусь Каліноўскі пісаў: «...Горка пакінуць зямельку родную й Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за Тваю праўду. Прымі, народзе, па шчырасьці маё слова перадсьмяротнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра Твайго напісана. Нямаш, Браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, калі чалавек мае ў галаве розум і навуку. Тады ён можа быць у радзе, жыці ў дастатках і тады толькі, памаліўшыся шчыра Богу, заслужыць на неба, бо. узбагаціўшы навукай розум і сэрца, пакахае сваю бацькаўшчыну. Але як дзень з ночай ня ходзіць разам, так ня йдзе разам праўдзівая навука зь няволяй маскоўскай. Пакуль яна ў нас будзе, нічога ў нас ня будзе: ня будзе праўды, дабрабыту й ніякай навукі. Толькі намі як скацінай кіраваць будуць, не для дабра нашага, але на нашу загубу.

Дзеля гэтага, народзе, як толькі пачуеш, што браты Тваё спад Варшавы пачнуць змагацца за праўду й свабоду, тады й Ты не заставайся збоку, але хапіўшы за што зможаш, за касу, тапор і цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я гавару Табе спад шыбеніцы, народзе, што тады толькі будзеш жыць шчасьліва, калі над Табой ужо Маскаля й пана ня будзе...»

Мо таму сяньняшнія маскоўскія сатрапы, згадзіўшыся паставіць помнік Кастусю Каліноўскаму ў Вільні, пакінулі на ім надпіс толькі на расейскай і летувіскай мовах. Мова Кастуся Каліноўскага, зь якой і за якую ён змагаўся, не знайшла там прыпынішча. Ведама, для іх наагул тут лепш пасавала-б рэзалюцыя Мураўёва: «Згодзен, выканаць прыгавор у Вільні ў 3 дні»!

Кастусь (Вікеньці) Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня 1838 году ў Мастаўлянах на Горадзеншчыне ў сям'і зьбяднелага беларускага шляхціча. Пасьля заканчэньня прагімназіі ў м. Сьвіслачы (1846-1855), у 1856 годзе едзе ў Маскву да свайго брата Віктара, дзе паступае вольным слухачом на першы курс мэдыцынскага факультэту Маскоўскага ўнівэрсытэту. Неўзабаве Віктар Каліноўскі, які лічыўся студэнтам Маскоўскага ўнівэрсытэту, а ў запраўднасьці быў рэвалюцыянерам-прафэсіяналам, пераяжджае ў Пецярбург. Зь ім пераяжджае таксама й Кастусь Каліноўскі ды ў тым-жа 1856 годзе запісваецца на юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Як і Віктар, Кастусь Каліноўскі ня меў ніякае матарыяльнае падтрымкі з дому, і на пражыцьцё мусіў зарабляць пабочна ці жыць зь мізэрнае стыпэндыі, якую ён атрымаў ад унівэрсытэту пад канец сваіх студыяў. Свае студыі ў Пецярбургу Кастусь Каліноўскі закончыў вясной 1860 году, атрымаўшы навуковую ступень кандыдата юрыдычных навук. На пачатку 1861 году ён вяртаецца на бацькаўшчыну, каб тут прыступіць да падрыхтоўкі зарганізаванага паўстаньня беларускага народу супраць Маскоўшчыны.

Як і Віктар, сваю рэвалюцыйную дзейнасьць Кастусь Каліноўскі распачаў у Беларусі, будучы яшчэ ў Сьвіслацкай прагімназіі. Гэта былі гады польскага бражэньня й прабуджэньня нацыянальнае сьведамасьці беларускага народу. Ведама, і моладзь Сьвіслацкай прагімназіі была азнаёмлена як з польскім нацыянальна-вызвольным рухам, так і з парасткамі такога-ж беларускага руху, напрыклад зь дзейнасьцяй беларускага паэты Францішка Савіча й «Саюзу літоўскай моладзі». У Пецярбургу найлепшага настаўніка Кастусь Каліноўскі знайшоў у васобе свайга брата Віктара, які ў гэты час лічыўся «апосталам дэмакратычных і патрыятычных прынцыпаў», стойкім змагаром за нацыянальныя правы паняволеных Масквой народаў. Тут трэба адзначыць, што апрача сваей рэвалюцыйнай дзейнасьці, Віктар Каліноўскі шмат працаваў над гісторыяй беларускага народу і быў навет супрацоўнікам Віленскай археалягічнай камісіі. Ён памёр ад сухотаў у 1862 годзе, пакінуўшы пасьля сябе шмат рукапісаў, якія аднак загінулі бясьсьледна, праўдзівей былі зьнішчаныя царскімі ўладамі.



**Кастусь Каліноўскі**

Гэта найлепш захаваны фотаздымак Каліноўскага, які знаходзіцца ў фондах Музэю Войска Польскага ў Варшаве. Рэпрадукуем яго зь менскай «Зьвязды», № 72 за 27 сакавіка 1960 году.

Кастусь Каліноўскі таксама поўнасьцяй пасьвячае сябе рэвалюцыйнай дзейнасьці і неўзабаве становіцца адным із кіраўнікоў студэнцкае моладзі з Паўночна-Заходняга краю (Беларусі), ачольваючы так званую групу «чырвоных», якая ў радыкальны спосаб прадбачвала сацыяльныя рэформы, клала ў васнову пераўтварэньня сацыяльнага ладу рэвалюцыйны мэтад — змаганьне ды патрабавала нацыянальнай роўнасьці й свабоды для ўсіх народаў, адкідаючы такім чынам і польскія прэтэнсыі да Беларусі, Летувы й Украіны. З братам Віктарам Кастусь Каліноўскі ўваходзіць таксама й у іншыя арганізацыі, у тым ліку й вайскавікоў, што праводзяць практычную падрыхтоўку паўстаньня ў Польшчы, Беларусі й на Ўкраіне.

Як зазначалася, на пачатку 1861 году Кастусь Каліноўскі вяртаецца на Беларусь, дзе прыступае да зарганізаваньня кіраўнічых цэнтраў будучага паўстаньня. У даволі кароткі адрэзак часу, ўзьнікаюць тут рэвалюцыйныя камітэты як у губэрнскіх, так і ў павятовых цэнтрах з агульным кіраўнічым цэнтрам у Вільні. Летам 1862 году наступае некаторая рэарганізацыя й цэнтралізацыя, у выніку чаго ўзьнікае **Літоўскі Правінцыяльны камітэт** па падрыхтоўцы паўстаньня зь месцам прабываньня таксама ў Вільні. У склад гэтага Камітэту, апрача Кастуся Каліноўскага, уваходзяць капітан генэральнага штабу расейскай арміі — Л. Зьвірждоўскі, інжынер-паручнік В. Казела, Э. Вярыга, доктар Длускі й фатограф Банольдзі. Для падтрыманьня сувязяў зь кіраўніцтвам польскага нацыянальна-вызвольнага руху Літоўскі камітэт уводзіць у свой склад Дзюлярана — прадстаўніка Варшаўскага камітэту. Прадстаўнікамі камітэту былі напрыклад: ад Віленскай гарадзкой рэвалюцыйнай арганізацыі — інжынер-паручнік В. Малахоўскі, ад арганізацыі Горадзенскай губэрні — В. Врублеўскі й браты Заблоцкія, ад арганізацыі Ковенскай губэрні — сьвятар А. Мацкевіч і доктар Хмельніцкі, ад арганізацыі Навaградзкага павету — доктар В. Борзабагаты й г. д.

Камітэт прыступае таксама да выданьня газэтаў — афіцыйнага свайго воргану «Сьцяг волі» на польскай мове й для беларускага сялянства газэты «Мужыцкая праўда». «Сьцяг волі» вядомая толькі адзіным сваім нумарам. Магчыма, што больш яна й ня выходзіла, а ейнае месца выконвала газэта «Мужыцкая праўда», якая рэдагавалася й пісалася ў большасьці выпадкаў, калі ня ў цэлым, Кастусём Каліноўскім пры дапамозе Ф. Ражанскага.

Чаму быў створаны Літоўскі Правінцыяльны камітэт, а ня проста **Літоўскі камітэт**, ды чаму афіцыйны ягоны ворган «Сьцяг волі» пачаў выдавацца на польскай мове? Тут трэба ўнікнуць у вабставіны таго часу і ў стан нацыянальнай сьведамасьці беларускага народу. Як ведама, у той час Беларусь была наводненая польскай ці прапольскай (спалячанай) шляхтай, а таксама польскімі й прапольскімі рэвалюцыйнымі элемэнтамі. Беларускай інтэлігенцыі налічваліся адзінкі, тым больш сьведамай нацыянальна. Кастусю Каліноўскаму ў падобных абставінах было цяжка, амаль немагчыма стаць на шлях поўнага разрыву з польскасьцяй, хоць ён да гэтага й імкнуўся. Тым больш, што ў вагульным змаганьні польскага й беларускага народаў трэба было прадбачваць жаданыя вынікі паўстаньня. Таму шукалася ўсемагчымага супрацоўніцтва з прапольскімі элемэнтамі, якія далёка не падзялялі ідэяў і праграмы Кастуся Каліноўскага й ягоных пасьлядоўнікаў.

Ды хоць і пры такой «згодніцкай» палітыцы група Кастуся Каліноўскага зразу-ж наткнулася на супраціў і шпількі Варшавы. Кастусь Каліноўскі пачынаецца абвінавачвацца ў «сэпаратызьме», і як будзем бачыць далей, дойдзе да правакацыяў і разгону Літоўскага Правінцыяльнага камітэту. Тым часам, вядучы з Варшавай дыпляматычныя спрэчкі, Літоўскі Правінцыяльны камітэт паводля свайго гледзішча падрыхтоўвае паўстаньне, якое плянуецца на вясну 1863 году. Да студзеня гэтага году паяўляюцца вялікім тыражом 6 нумароў «Мужыцкай праўды», якая распаўсюджваецца па ўсёй Беларусі й Летуве, трапляючы навет на Ўкраіну. Падгатаўляецца зброя, і галоўным чынам народ і кіраўнікі паўстаньня.

Кастусь Каліноўскі быў ведамы сваім беларускім сэпаратызмам як у дачыненьні да Расеі, так і Польшчы. Праўда, ён ня быў натолькі вузкім нацыяналістым, каб адкідаць спачуваньні як Палякаў, так і тых-жа Расейцаў, супраць якіх ськіроўвалася паўстаньне беларускага народу, ведама, калі такія спачуваньні ці падтрымка мелі сваё выяўленьне. Пайменна, ён у многіх выпадках высоўваў і падтрымоўваў ідэю супольнага змаганьня ўсіх народаў супраць паншчыны й царызму, аднак пад умовай, калі гэтым народам **згары будзе** забясьпечана нацыянальная роўнасьць і свабода. Гэтая станоўкасьць Кастуся Каліноўскага знайшла навет адлюстраваньне ў «Мужыцкай праўдзе», якая найбольш была прысьвечаная сялянскаму пытаньню, сацыяльнаму пытаньню й найменш старалася закранаць беларуска-польскія адносіны, а навет часамі выказвалася за так званую «беларуска-польскую гістарычную супольнасьць». Пайменна, у «Мужыцкай праўдзе» беларускі народ ставіўся нараўні з польскім народам і вымагаліся аднолькавыя для іх нацыянальныя правы. Што да Расеі, дык тут ставілася пытаньне поўнага разрыву, ведама, і супрацоўніцтва, у выпадку, калі расейскі народ прызнае нацыянальную незалежнасьць беларускага народу і ня будзе высоўвацца з сваім апякунствам. Па-за «Мужыцкай праўдай» сучасьнікі ведалі Кастуся Каліноўскага як прынцыповага незалежніка ад Польшчы, пра што сьветчаць ягоныя паказаньні ў часе працэсу. «Пісьмо з-пад шыбеніцы» ды даволі папулярнае выказваньне, што «Літва ня можа даверыць свой лёс такой бязглузнай галаве, як Варшава».

Студзеньскае паўстаньне ў Польшчы захапіла Літву (Беларусь) неспадзявана й непадрыхтаванай. Кастусь Каліноўскі срога асудзіў гэтую рамантычную пасьпешнасьць Варшавы, аднак, каб падтрымаць супольную справу, у Беларусі таксама быў дадзены сыгнал да дзеяньня, тым больш, што тут пачынаюцца маніфэстацыі Палякоў і дзеяньні польскіх вайсковых аддзелаў. 1 лютага 1863 году Літоўскі Правінцыяльны камітэт, ачолены Кастусём Каліноўскім, аб'яўляе сябе рэвалюцыйным урадам пад назовам «Часовы правінцыяльны ўрад Літвы й Беларусі». Адначасна распачынаюць дзейнічаць паўстанскія аддзелы Рагінскага, Траўгута, В. Врублеўскага, Нарбута, Віславуха, Мацкевіча, Колыша, Длускага, Лукашэнаса й другія. Аднак тут падасьпела Варшава, якая палохалася беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, тым больш руху беларускага сялянства ня менш, як і расейскае арміі. Ейныя агенты ў Беларусі, галоўным чынам паны падрыхтоўваюць пераварот з мэтай захапленьня ў свае рукі кіраўніцтва паўстаньнем.

Ужо 8 лютага прыхільнікі Варшавы дамагаюцца на паседжаньні Камітэту (Часовага ўраду) спыненьня ўсякае акцыі па стварэньню новых паўстанскіх аддзелаў. Далей яны ствараюць свой асобны камітэт пад назовам «Аддзел, які кіруе правінцыямі Літвы», які, зацьверджаны Варшавай, у сярэдзіне сакавіка аб'яўляе аб роспуску Літоўскага правінцыяльнага камітэту. Пры гэтым новы «Аддзел» і Варшава пагражаюць ваеннай інтэрвэнцыяй і раскрыцьцём перад Масквой групы Кастуся Каліноўскага, у выпадку, калі апошняя акажа супраціў Варшаве. Кастусь Каліноўскі складае пратэст Варшаве, называючы «згубай і здрадай» падобныя ейныя паступкі, аднак гэта застаецца **бязь ніякіх** вынікаў, а сам Каліноўскі аддаецца пад суд новага камітэту. Праўда, гэты суд выбачыў «віну» Кастуся Каліноўскага й апошні накіроўваецца ў Горадзеншчыну на пасаду камісара.

Падобная прадажная дзейнасьць Варшавы была пачаткам заняпаду рыхтаванага ўсенароднага паўстаньня ў Беларусі. Новы «Аддзел, які кіруе правінцыямі Літвы», наагул спыняе паўстанскую акцыю, спадзяючыся на інтэрвэнцыю Францыі й Ангельшчыны. Ён тармозіць ажыцьцяўленьне праграмы польскага паўстаньня адносна вызваленьня сялян ад паншчыны, тым больш праграмы ў гэтым кірунку групы Кастуся Каліноўскага, якая патрабавала бязвыкупнага надзелу сялянства зямлёй, перадачы яму ўсяе зямлі й зраўнаньня ў правох усіх грамадзян (апошняга патрабавала таксама й польская праграма ці Маніфэст з 22 студзеня). Разам з гэтым гэты «Аддзел» распаўсюджвае хвальшыўку ад імя Яські гаспадара спад Вільні (К. Каліноўскага) так званае «Пісьмо да мужыкоў зямлі польскай», у якім пацяшае беларускага селяніна **передачай яму** зямлі й **за выкуп**, якую ён меў у мамэнт абвешчаньня Маніфэсту з 22 студзеня, ды называючы яго «Паляком зь вякоў вечных». Праўда, у характары контракцыі, Кастусь Каліноўскі выпускае гэтым часам 7-ы нумар «Мужыцкай праўды», падаючы свой ранейшы голас. Аднак падобная акцыя Варшавы толькі дапамагала расейскім каральным аддзелам хутчэй расправіцца з паўстанцамі ды вызваць у беларускага селяніна яшчэ большую нянавісьць да паноў, да польскага паўстаньня ў Беларусі, а адначасна й некаторы недавер да справы Кастуся Каліноўскага. Пайменна, расейская прапаганда цяпер пачала дзейнічаць у гэтым кірунку, што «вось глядзі, беларускі мужык, мы вам даём зямлю й волю, а гэтаму супрацьставяцца польскія паны й рэвалюцыянэры».

Тым часам Кастусь Каліноўскі зноў пачынае скансалідоўваць свае сілы. У чэрвені ён быў адклікаy з Горадзеншчыны, якая гэтым часам была ўлучаная ў Польшчу, і назначаны сакратаром галавы Варшавы ў Беларусі Дзюлярана. Яшчэ будучы ў Горадзеншчыне, ён там праводзіць беларускую справу ды зьбірае сваіх прыхільнікаў. Цяпер у Вільні, акружыўшы сябе ранейшымі супрацоўнікамі й новымі пасьлядоўнікамі, ён перабірае ўладу ў свае рукі, выганяе Дзюлярана, а на паседжаньні Літоўскага аддзелу ў сярэдзіне чэрвеня ставіць пытаньне поўнага разрыву з залежнасьцяй ад Варшавы. Гэтая пастанова Кастуся Каліноўскага была паўнасьцяй падтрыманая ягонымі прыхільнікамі ды прынятая новая пячатка з гэрбам Літвы (Пагоняй) і подпісам «Камітэт, які кіруе Літвой».

Устрывожаная Варшава высылае ў Вільню сваіх агентаў ды зноў пагражае карнай экспэдыцыяй. Пачынаюцца перагаворы, якія прыводзяць да таго, што Кастусь Каліноўскі застаецца галавой паўстаньня ў Беларусі, пайшоўшы аднак на часовы кампраміс з Варшавай у тым сэньсе, што адозвы забавязаўся выдаваць не ад імя «Камітэту, які кіруе Літвой», але ад «Ураду польскага над усім краем Літоўскім і Беларускім» для «народу зямлі Літоўскай і Беларускай».

(Працяг будзе)

**П. У.**

# Кропкі над «і»

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

Пры такім стаўленьні да гэтак званага «нацыянальнага пытаньня» Расейцы робяць сабе запраўдную «мядзьведжую ўслугу». Заміж таго, каб глянуць гістарычнай рэчаіснасьці ў вочы, яны дзівяцца, што патрыёты нерасейскіх народаў ставяцца да іх варожа, змагаючыся за сваю нацыянальную дзяржаўнасьць. Яны ня хочуць бачыць, што змаганьне гэтае ня спыніцца, пакуль не ўкаранунецца посьпехам.

І апошняя кропка над «і»: Мы — ня ворагі расейскага народу, і жадаем яму гэтак-жа горача вызваленьня з пад сацыяльнага прыгнёту, як пасьлядоўна змагаемся за нацыянальную дзяржаўнасьць і сацыяльную справядлівасьць для нашага народу. Але паўтараем супраць акупантаў усіх колераў і масьці — хто-б яны ня былі — змагацца мы будзем бескампрамісна.

**Ул Нeмановіч**

# Літаратурны Дадатак

**А. Саковіч**

## Асірочаныя

Летні дзень. Чыстае паветра, поўнае сонца. Марына, разам із сваёй прыяцелькай Галінаю Тышкевіч, сядзіць на бальконе невялікага двухпавярховага катэджу. Яна адкінулася на сьпінку палатнянага крэсла. У яе на каленах кніжка, але яна ня чытае.

Пад бальконам галасы дзяцей. Марына чуе, як ейная дзевяцігадовая Аленка выхваляецца перад сваім сябрам Барысом:

— А ў нас навіна. У Бібарах едзе Юрка.

— Які Юрка?

— Наш! Мой дзядзька!

— Вы атрымалі ліст?

— Не, ня мы, а Тышкевічы. Наш Юрка ня ведае, што мы тут. Ён навет ня ведае, што мы ў Нямеччыне. Гэта будзе яму цудоўная неспадзеўка... такая неспадзеўка... — паўтарае некалькі разоў, і словы, быццам вольныя птахі, радасна вырываюцца із клеткі дзіцячага сэрца.

— Вы чуеце, як цешыцца Аленка? — заўважвае Галіна.

— І мяне гэта трывожыць, — адказвае Марына. — Нажаль, я сказала ёй аб Юрку адразу, як пачула, што ён у Равэнсбургу. Тады я яшчэ ня ведала аб яговым лісьце да твайго бацькі. Цяпер я ёй нараз кажу: «Аленка, няма пэўнасьці, што гэта наш Юрка».

— А яна?

— Просіцца: «Калі ласка, мама, не кажы мне так, бо тады мне хочацца плакаць». Галіна сьмяецца:

— О, гэта так падобна на Аленку. Вы памятаеце гісторыю із «бабкаю»?

— Я ніколі не забудуся на яе, — адказвае Марына, і голас яе гучыць усхвалёвана.

У Бібараху Марына з дачкою жывуць сярод невялікай групы беларускіх уцекачоў. Сям'я Тышкевічаў асабліва блізкая ім. Аднойчы Галіна паскардзілася Марыне: «Вы ведаеце, вашая Аленка ўсім Немцам рэкамэндуе маю маму сваёй бабкай». «Скажы мне, — запытала Марына ў той-жа дзень дачку, — чаму ты выдумваеш, што спадарыня Тышкевіч — твая баба?» Ясны, засёды ажыўлены твар малой спахмурнеў. Яна сыцінула вусны, апусьціла вочы й нічога не адказала. «Чаму?» — паўтарыла маці срога. Аленка маўчала, але Марына бачыла, што малая блізкая да сьлёзаў. «Цяпер ты мусіш пайсьці перапрасіць спадарыню Тышкевіч. Яна не старая жанчына й чуецца пакрыўджанай... і Галі няпрыемна, а мне сорамна...» Раптам Аленка ня вытрымала: «У нас з табою нікога няма, нікога, — загаласіла яна, задыхаючыся ад сьлёзаў. — У Барыса — тата, мама, дзед... у Галі брат... Толькі ты ў мяне адна...» На момант боль і крыўда ў дрыжачым голасе дзіцяці зьдзівіла Марыну. Тады яна зразумела. Гэта быў боль ад таго, што яны тут, на чужыне, ня маюць нікога із сваякоў. Гэта было жаданьне мець іх, як іншыя. Марыне самой хацелася плакаць.

— Мама, — кліча Аленка із саду.

Марына падымаецца із крэсла й сьхіляецца над парэнчамі балькону.

— Мама, ці магу я пайсьці да Інгі?

Барыса ўжо няма ў садзе, і Аленцы, відаць, сумна аднэй. Марына глядзіць на гадзіньнік:

— Цяпер чацьвертая, — кажа яна. — Не забывайся, што а шостай вячэраем. Не чакай, каб я клікала, вярніся на час сама.

— Добра, — абяцае малая й бяжыць да каліткі.

Маці глядзіць на Аленку, ажыўленую, вясёлую, усю ў сонцы, і ведае, што любіць яе болей ад свайго жыцьця.

— Галіна, — просіць яна, — калі прыедзе Цытовіч, прыбяжы адразу мне сказаць.

— Абавязкава.

— А калі табе будзе здавацца, што гэта якісь ашуканец, нічога ня кажы Аленцы... Я не хачу, каб яна яшчэ й гэта перажывала.

— Ведаеце, — прапануе Галя, — калі будзе сумлеў, я забяру яе куды-небудзь, а вы самі пойдзеце да нас.

— Дзякую.

Галінка йдзе дадому. Марына застаецца адна. Адсюль, дзе яна сядзіць, відаць увесь Бібарах. Прыгожае невялікае места. Вабяць Марыну сваім прыгаством ціхія вуліцы, стромкія, лёгкія вежы кірхаў, белыя дамы з чырвонымі дахамі ў зеляніне садоў. Сяньня відаць у далячыні сьветлыя абрысы Альпаў із сінаватымі галовамі. Новы край, новы сьвет, такі непадобны да таго, дзе нарадзілася яна.

Год таму Марына з дачкою пакінулі родны дом. Тады шмат людзей ішло па шляхох на захад. Адны адыходзілі, каб падрыхтаваць сілы й вярнуцца, калі надыйдзе адпаведны час, іншыя — шукаючы ратунку. У тыя дні на кажнай сьцежцы вартавала сьмерць, але людзі йшлі, бо навала, што сунулася з усходу, была страшнейшай ад сьмерці.

Увесну 1945 году Бібарах акупавалі Французы. Вайна скончылася. Першы раз пасьля шмат гадоў гора й няшчасьця людзі пачынэлі дыхаць вольна, пачыналі шукаць сваіх. Толькі Марыне й Аленцы ня было каго шукаць... і раптам вестка аб Юрку, стрыечным брату Марынінага мужа, сыну выдатнага прафэсара Аляксандра Цытовіча. У 1931 годзе Цытовіча ў Менску расстралялі. Тады думалі, што загінуў і Юрка. «Проста неверагодна, што гэта ён», — думала й выказвалася Марына. «Мо самазванец які, а мо й горай — чыйсь агент?» — казалі ёй знаёмыя. Марына пагаджалася зь імі. Немагчыма было не пагадзіцца. Незадоўга перад тым у Бібараху зьявілася савецкая місія. Адразу на сваім будынку, у цэнтры гэтага старажытнага, някранутага разбурэньнямі, места, павесілі яны вялічэзны партрэт Сталіна. Усе ўцекачы насьцеражыліся. Да іх пачалі даходзіць палохаючыя навіны. Казалі, што ў УНРРА паналазіла безьліч камуністых, што альянты выдалі Саветам беларускіх вайскоўцаў у Францыі. Калі стала ведама аб Ялцінскай згодзе, навет найбольш аптымістычныя із уцекачоў занепакоіліся. Здавалася, жыцьцё навокал ізноў рабілася цёмным, няпэўным.

У гэты трывожны час сям'я Тышкевіча, капітана Беларускае Краёвае Абароны, сталася цэнтрам, ля якога гуртаваліся ўцекачы. Тышкевіч умеў разважыць, парадзіць, супакоіць. Хто-б ізь Беларусаў ні прыяжджаў у Бібарах, абавязкава складаў яму візыту й вельмі часта спыняўся ў яго.

У сям'і Тышкевічаў пачула Марына, што ў Бібарах па дарозе на Мюнхэн затрымаецца Юрка Цытовіч. Яны мелі ад яго ліст. Пісаў ён, што шмат чуў добрага аб самім Тышкевічу й хоча зь ім пазнаёміцца. Такія лісты капітан атрымліваў часта, і гэта ня дзівіла. Дзівілі, насьцярожвалі асобныя радкі ліста — «...намазаў пяткі, змывацца збіраюся... думаюць, тут брахунец — шукаюць як-бы зрэзаць...»

— Вы неяк прыгадвалі, што блізка ведалі Цытовіча? — спытаўся Марыну Тышкевіч, калі яна прачытала ліст.

— Вельмі блізка, — адказала яна. — Юрка навет па мужу мне свой. Але мова гэтага ліста дужа непадобная да Юркавае.

— Жыцьцё мяняе чалавека, — заўважыў ёй Тышкевіч. — А мне казалі, што ён расказвае пра гады ў «працоўнай калёніі й бясприпытульніцтва... Калі так — хлапцу трэба дапамагчы.

— А калі гэта ня так? — спыталася Марына.

— Усяк на сьвеце здараецца, будзем бачыць.

Твар Тышкевічаў стаўся суровым, заклапочаным. «Відаць, ён і сам ня верыць, што гэта Цытовічаў сын», — падумала Марына, і яна амаль згубіла надзею на спатканьне. Але ўсё-ж думкі аб Юрку не пакідалі яе. Яны абуджалі ўспаміны пра Менск, пра гады юнацтва. Якой была яна сама тады? Якім быў Юрка? Якім здаваўся ім сьвет?

...Успомніла Марына 1926 год, калі з Амэрыкі ў Беларусь вярнуўся Аляксандар Цытовіч. Марына была тады на першым курсе ўнівэрсытэту, у тым шчасьлівым веку, калі кажны дзень чуеш сябе ў кагосьці закаханым. Ці прафэсар Цытовіч захапіў ейнае выабражэньне тым, што Беларусь не памерла ў яговым сэрцы на багатай чужыне, ці тым, што ён быў выдатным гісторыкам, ці тым, што выглядаў прыгожа, — яна тады не задумвалася. Ёй прыемна было наведваць яговыя лекцыі.

Марына любіла маляваць. На палёх сшыткоў із запісамі лекцыяў «увекавечвала» яна тых, каго бачыла вакол, а найбольш Цытовіча. Падабаліся ёй яговыя рукі — тонкія, даўгія, надзвычай прыгожае формы. Нараз ёй хацелася прытуліцца да іх сваім тварам. Ці было гэта каханьне? Тады яна думала, што так.

Марына была ўжо на трэйцім курсе, калі ў Цытовіча пачаліся няпрыемнасьці. Спачатку зьявіліся няпрыхільныя публікацыі афіцыйнае прэсы пра яговыя навуковыя працы. Іх называлі чужымі, варожымі. Пазьней пачаліся турботы ў унівэрсытэце, і яговы прадмет абвесьцілі неабавязкавым для залікаў.

Сымпатыі студэнтаў заставаліся на баку прафэсара. Увесну, калі Марына здала ўсе залікі, што вымагаліся, і засталося яшчэ тры вольных дні, яна наважыла падрыхтаваць залік і Цытовічу. Да яе далучыліся дзьве сяброўкі. Сабраліся ў Марыны. Але таму, што гэта быў канец сэсіі, яны чуліся зморанымі й ня столькі займаліся, колькі гутарылі. Праз адчыненае акно ўрываўся цёплы вясновы вецер, гартаў лістамі раскрытых, забытых на стале кніжок. Праз тры дні яны ня былі гатовыя.

— Давайце аднясем яму кветак, — прапанавала Марына. — Няхай гэта будзе нашае «даруй», што не падрыхтаваліся.

— Яшчэ падумае, што закаханыя ў яго, — запярэчылі сяброўкі.

— Ну дык што, як закаханыя? — не згаджалася Марына. — Хіба гэта грэх?

Калі ты так думаеш, дык і нясі сама.

— І панясу, — сказала Марына.

У той-жа дзень купіла яна букет белых і чырвоных рожаў.

Цытовіч жыў у доме прафэсуры. На другім паверсе Марына знайшла дзьверы зь яговай карткай. Пазваніла й адразу пачула крокі. Дзьверы адчыніліся. Высокі худзенькі хлапец стаяў на парозе. Марына адразу пазнала ў ім сына Цытовіча. Ён меў цёмныя ўважлівыя вочы, бялявыя валасы. Хвалістая прадка зьвісала над вокам, і ён адкінуў яе назад тонкаю прыгожаю, як у бацькі, рукою.

— Добры дзень, — павіталася.

— Добры дзень, — адказаў хлапец.

Ён паглядзеў на яе, на кветкі. На яговым твары адбілася зьдзіўленьне.

— Калі ласка, перадай гэтыя кветкі прафэсару.

— Дзякую, перадам.

— Бывай, — сказала Марына.

— Бывайце, — адказаў ён і зачыніў дзьверы.

Зьдзіўлены твар хлапца выклікаў у Марыны дакоры сумленьня. «Ці добра я зрабіла? Што падумае прафэсар? Што сказалі-б дома, каб даведаліся?» — задумалася яна й тут-жа сябе супакоіла: «Прафэсар не здагадаецца, хто прынёс... дома ніколі не даведаюцца».

Марына памылілася. У тое лета апынулася яна на летнішчы ў суседзтве з Цытовічамі. На ейнае шчасьце, Цытовіч ня прыехаў адразу, бо быў у навуковай камандыроўцы. Але ў першы-ж дзень, як спаткалася яна зь Юркам і яговай маткаю, Юрка пазнаў яе.

— Я ведаю вас. Гэта вы прыносілі тату рожы, — сказаў ён.

— Чаму ты такі пэўны, што гэта я? — паспрабавала жартліва запярэчыць Марына.

— Бо добра запамятаваў вас, — настойліва паўтарыў ён.

Марына бачыла, як яговая маці паглядзела на яе спачатку сур'ёзна, дапытліва, і та-

---

## Творы Алеся Гаруна

**(Працяг)**

**СПРЭЧКА**

Дзядзька Тодар, два Праньцішкі,  
Сват Гілёрык, кум Тамаш  
У мястэчку Зацьвілішкі  
Насьмяшылі ўвесь кірмаш.

Што было прадаць — прадалі,  
Кум Тамаш зьмяняў каня,  
Покі ўсё панакуплялі,  
Зірк — ай-ей: каля паўдня!

— Праўда, справіліся ёмка,  
Але-ж, хай ты... во, абед...  
— Ну, дык што! Пайшлі ў карчомку!  
На суседа так сусед.

Ўзялі кварту. На закуску  
Пару ўзялі тараноў.  
Што-ж ім кварта? На затруску!  
Ўзялі квартачку ізноў...

Больш пілі дзядзькі, чым елі;  
Квас, гарэлку, піва, мёд.  
Быццам чмелі загудзелі,  
Як і ўвесь ля іх народ.

Хоць так словы ледзьве вяжуць, —  
Тэй бяды! А што-ж маўчаць?  
Той штось скажа, той зауважыць,  
Кіне чарку налівацъ.

Так ад цэнаў, бульбы, меры,  
Што на рынку хвалыш дае,  
Зачапілі справы веры  
Дый... шчапіліся за яе!

Гэтта слоў ім не хапіла, —  
Знана, вёска: словаў брак!  
Потым, слова — хіба-ж сіла?  
Хіба-ж зробіць, як кулак?

Вось і пляснуў Тодар ў вуха  
Пасуседзку Тамашу,  
І паўстала завіруха  
У карчме на кірмашу.

Кум Гілёрык, сват, Праньцішкі,  
Тодар — зьвіліся ў клубок...  
Усё мястэчка Зацьвілішкі  
Раптам зьбеглася ў шынок...

За гадзіну дзед Ігнацы  
Ўсіх бусайлаў тых мірыў:  
— Ці-ж ня сорам гэтак, братцы? —  
Дзед паважна гаварыў:

— Ну, на ліха вам сварыцца?  
З розных вераў вы — адны  
Дзеці гэтае зямліцы,  
Краю гэтага сыны.

Вера ўсім з жыцьцём даецца,  
Хто іх даў — яму іх знаць!  
Дурань той, хто спадзяецца  
Веры сілай паяднаць.

Мы і так, браткі, зьнявагі  
Досыць мелі ад чужых,  
Каб спрачацца без развагі.  
Ці ня цешым толькі іх?

Глузду хіба-ж вы ня мелі?  
Біў чужы вас лёгка сьмех?  
Эх, вы, шэршні! Эх, вы, чмелі!  
Ну, ня сорам вам? ня грэх?

**КАМУ ШТО**

**(Жарт)**

У самы вар, у летні час,  
Ужо а поўдні, па абедзе,  
Назаўтра ў горад, на кірмаш,  
Народу цьма ідзець і едзе.

Ну, ехаць добра, хоць пячэ,  
Але-ж ісьці — дык во дзе мука!  
А як з паклажаю яшчэ,  
Дык то найгоршая дакука.

Хаця каб крышку адпачыць, —  
Ідзеш, ідзеш, ды трэба сесьці,  
Бо пуд ці пару валачыць —  
То не пярынку ў жмені несьці.

Калі-ж карчма, — ну, тутка стой!  
Тут можна выпіць і паесьці,  
А за работай мілай той  
З знаёмым гутарку завесьці.

Зыйшліся так у карчме раз  
Наш Беларус, Цыган, Хахол,  
І неяк трапіла на час,  
Што за адзін прыселі стол.

Адзін узяў сабе мядку,  
Другі — гарчыну, той — паўпляшкі;  
Пакуль сядзелі ў халадку,  
Зьвялі знаёмства, — то-ж ня цяжка.

Цыган да гораду сьпяшыў, —  
Каня ён добра знаў ўсе вады;  
Купляў, мяняўся — не грашыў,  
Купцом на коні даўна рады.

Хахол Маўчба ішоў з работ, —  
Заробак добры меў, багаты;  
Шукаў сябра, каб без клапот  
Даехаць зь ім да роднай хаты.

У горад брыў цялё прадаць  
Наш Янка Цьвік, празваньнем Дыба;  
Падатак мусіў ён аддаць,  
А так — цялё самому трэба.

Адно вось так, другое не, —  
Сядзяць і зюкаюць пацыху, —  
Ажно глядзі ты, вохці мне!  
Зайшлі у спрэчку, клічуць ліха.

Каб іх на царства узьвялі, —  
Аб гэтым здумалі спрачацца! —  
Дык што рабіць-бы пачалі,  
Якою працаю займацца?

— Вось я, здаецца, добра-б жыў,  
Гульнуў-бы я тады бясьпечна,  
З сваім народам-бы дружыў,  
Кулеш усё-б еў ды яечні. —

Так кажа Янка першы наш.  
— Ну, дзе твой розум, белавусы? —  
Крычыць Маўчба. — Зусім нямаш  
Між вас разумных, Беларусы!

Вось я іначай-бы зрабіў:  
Ў садку пад вішняю ляжаў-бы,  
Увесь урад пры мне-б тут быў,  
А я-б так правіў ды сьпяваў-бы.

А есьці — еў-бы з салам хлеб,  
Крышыў галушкі-б я зубамі,  
І сала з салам, і яшчэ-б  
Я сала так-бы еў часамі.

— Каб вас пярун! — крычыць Цыган: —  
Абодва варты вы ня многа, —  
Вунь той аббіты ўвесь саган  
Хоць грошык варт, а вы — нічога!

Каб трапіў я у каралі,  
Дык мне ўсё гэта было-б мала.  
З казны-б украў я тры рублі,  
Украў каня — і... махні драла!

1910

**(Далей будзе)**

ды мяккая й разам з тым хітраватая ўсьмешка кранула еймыя вусны.

— О, — сказала яна, — у нашага Юркі надзвычайная зрокавая памяць.

Марына адчувала, як запалалі ейныя твар і вушы. Цытовіч падыйшла зусім блізка й паклала руку ёй на плячо.

— Не чырванейце, я сама вельмі люблю прафэсара й разумею ягоных студэнтак, — казала яна, ласкава перабіраючы рукою канцы Марыніных валасоў.

Адчуваньне пяшчотнае рукі гэтае жанчыны адразу супакоіла Марыну. Ёй падабалася жонка прафэсара. Чулася дабрата ў ейным голасе. Ветліва сьвяціліся вочы. Уся манера ў вабыходжаньні выклікала давер.

— Калі ласка, аб кветках нічога не кажэце маім і прафэсару, папрасіла яна.

Цытовіч расьсьмяялася:

— Даражэнькая, якое-ж вы яшчэ дзіця.

У тое лета Марына й Юрка моцна пасябравалі. Так бывае рэдка паміж дзевятнаццацігадовай дзяўчынай і чатырнаццацігадовым хлапчуком. Праўда, аднойчы яны пасварыліся. Здарылася гэта недзе ў сярэдзіне лета. Да Цытовічаў прыехаў на тыдзень із Койданава стрыечны Юркаў брат, Алесь Солтан. Алесь — малады лекар, прыемны, разгаворлівы, дасьціпны — адразу спадабаўся Марыне. Ёй было цікава зь ім. Цешылася зь візыты пляменьніка й сама Цытовіч. Толькі Юрка быў ня ў гуморы. Марына часта лавіла ягоныя цёмныя вочы на сабе й бачыла, як ён незадаволена крывіўся, калі ўсе сьмяяліся. «Няўжо гэтае хлапчанё зайздросьціць Алесю? — мільгала ў Марынінай галаве здагадка.

Тыдзень мінуў хутка. У вапошні дзень Марына хадзіла прыціхлай. Думка аб расстаньні з Алесем прыносіла сум. «Я закаханая ў ім? — пыталася яна сябе й адказвала: «Моцна»... «А ён?»... Яна ня ведала й маркоцілася, што ён паедзе, а яна не даведаецца. Пайшла правесьці яго да аўтобуса. Ішлі па вузкай лясной дарозе. Юрка крочыў наперадзе ад іх. Алесь быў нязвыкла маўклівым. «Мо таксама засмучаны, што расстаецца зы мною?» — думала Марына, і ёй прыемна было так думаць. Калі ён узяў ейную руку й прыціснуў да сябе, яна не адабрала.

— Вы ведаеце, Марынка, я, здаецца, моцна захапіўся вамі, — сказаў Алесь.

Ягоны голас гучэў шчыра. Марына адразу павесялела, стала пэўнай. Ёй навет здалося, што ўжо й ня так моцна пранятая Алесем.

— Толькі «здаецца»?

— Я не жартую, — сказаў ён сур'ёзна.

Раптам Юрка спыніўся й павярнуўся да іх. Ён глядзеў проста на Алеся й зьедліва ўсьміхаўся.

— Ня выбражай, што яна запраўды прападае па табе, — сказаў ён.

— Юрка, не гарадзі глупства, — засьмяялася Марына.

Юрка быццам ня чуў яе. Ён ня зводзіў вачэй з стрыечнага брата й працягваў:

— Калі хочаш ведаць, яна закаханая ў майго тату. Яна прынесла яму рожы.

— Рожы тваіму тату? — перапытаў Алесь і зьдзіўлена паглядзеў на Марыну.

— Я прынесла белыя й чырвоныя рожы, — сказала Марына, робячы асаблівы націск на «белыя й чырвоныя», стараючыся, каб голас гучэў бястурботна. — Прафэсар такі патрыёта.

— Я разумею, — прамармытаў Алесь і неяк дзіўна зьмяніўся, стаў абыякавым ягоны твар і голас.

Расстаньне было сапсаваным. Марыну трэсла абурэньне на Юрку. Як толькі яны засталіся ўдвох, яна сказала:

— Гэта нясумленна. Ты абяцаўся нікому не гаварыць пра кветкі.

Ён паціснуў плячыма.

— Я абяцаўся не казаць тату й тваім.

— Добра, я табе гэтага не дарую, — заграгзіла яна.

Але праз некалькі дзён даравала. Ня мела яна там нікога, каб сябраваць. Ейны брат, — драматург, у сям'і якога яна вырасла, сьпяшаўся скончыць замоўленую яму тэатрам п'есу. Цытовіч была кволай, мела хворае сэрца й не адыходзіла ніколі далёка ад дому. Марыніна швагерка, занятая малымі дзецьмі, таксама заставалася заўсёды блізка хаты. Марына й Юрка мелі шмат вольнага часу й лёгкія ногі. Зусім бяз стомы маглі яны прайсьці за дзень шмат кілёмэтраў. Ня раз яны выходзілі з дому на сьвітаньні й пачыналі зьбіраць грыбы ці ягады, калі яшчэ ў лесе з паветра й кустоў ліпла да скуры халодная вільгаць начное расы. Удзень, назьбіраўшы поўныя кошыкі, садзіліся яны адпачываць дзе-небудзь па дарозе. Юрка любіў углядацца ў неба.

— Глядзі, — казаў ён Марыне, паказваючы рукою на сіняву, на грудкі лёгкіх белых хмаркаў, — так выглядае акіян у сонечны дзень.

А калі калыхаліся ад ветру, шумелі над імі верхавіны хвояў, Юрка зачыняў вочы, прыслухоўваўся:

— Я чую шум хваляў, — запэўняў ён Марыну.

З бацькамі Юрка пакінуў край, дзе нарадзіўся тры гады перад тым. Ягонае сэрца было яшчэ поўнае ўспамінаў. Ён захапляў імі й Марыну. Разам зь ім пачынала яна бачыць шчасьлівы далёкі край.

У наступным годзе ўлетку спатыкалася Марына зь Юркам ізноў, але ня ў лесе й ня ў полі. Спатыкаліся яны ў Менскім ГПУ, прыносячы перадачы арыштаваным: Марына — брату, а Юрка — бацьку. Міналі месяцы ў горы й страху. У кажнай знаёмай сям'і адбываліся вобыскі й арышты. Ніхто ня быў пэўным, што чакае яго заўтра. І гэта гняло.

Найбольш разгубленай выглядала Цытовіч. Кволая, яна не магла ісьці працаваць. Яе палохала будучыня. Вартавыя ГПУ часта ня бралі для ейнага мужа перадачаў. Аднойчы, пасьля адмовы яна спыталася: «Чаму?» Ёй коратка адказалі: «Расстраляны». Гэтага было зашмат для беднае кабеты. У той-жа дзень яна памерла на атак сэрца.

У віры тых падзеяў лёс Юркі стаўся асабліва трагічным. Марына прыгадала Юрку на магільніку ў дзень пахованія ягонае маці. Людзі разыйшліся, Марына засталася зь ім. Было сьцюдзена, хоць зырка сьвяціла сонца, і з-пад адталай зямлі прабівалася першая зеляніна муравы. Юрка стаяў ля сьвежае магілы акамянелы, бязь сьлёзаў. У Марыны сьціскалася сэрца ад болю за яго.

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

# У 100-ю гадавіну сьмерці Тараса Шэўчэнкі

Сёлета 10-га сакавіка споўнілася сотая гадавіна сьмерці найвялікшага ўкраінскага нацыянальнага паэты Тараса Шэўчэнкі. Несьмяротны аўтар «Кабзара» быў для ўкраінскага народу тым, кім для нас зьяўляецца Янка Купала — ня толькі вялікім паэтам і стваральнікам новай украінскай літаратуры, але й нацыянальным сумленьнем украінскага народу.

Значэньне Шэўчэнкі выходзіць далёка паза межы самой Украіны й расьцягваецца на ўсе паняволеныя былай царскай імпэрыяй нерасейскія народы, у тым ліку й на народ беларускі. Нацыянальнае адраджэньне кажнага з гэтых народаў арыентавалася ў значнай меры на Шэўчэнку і ў ягонай творчасьці шукала прыкладу для творчасьці собскай. Бадай усе нашыя паэты пэрыяду Нашаніўскага Адраджэнства ў тэй або іншай форме карысталіся із несьмяротнай паэтычнай спадчыны Шэўчэнкі й прысьвячалі яму свае творы.

Як адзін з узораў такіх твораў зьмяшчаем ніжэй верш Янкі Купалы:

**ПАМЯЦІ ТАРАСА ШЭЎЧЭНКІ**

**25 лютага 1909 г.**

Сягоньня на Ўкраіне вялікае сьвята:
 Ў дзень гэты радзіўся тварэц «Кабзара».
На ўсіх і павага, і стройныя шаты,
 І песьні ня моўкнуць свайго песьняра.

Праслаўнаму бацьку украінскай прасьветы
 Паклон б'е разбуджана ўся старана,
Дняпровыя воды талкуюць аб гэтым,
 І думае думу сьцяпоў цішыня.

Пясьняр-кабзарысты нікім не забыты,
 Як жыў дзеля песьні, так зь песьняй ня ўмёр:
Здабыў сабе славу ня з мармурнай плыты,
 А з слоў, што ня крыша ні век, ні тапор.

. . . . . . . . . . . . . . .

Бываюць упадкі, — люд стогне балесьне;
 Пясьняр паявіўся, і ўцехі зьвіняць;
Пясьняр умірае... а песьня?.. а песьня?..
 Эх, каменю толькі ня дана паняць.

Жыве гэта песьня, як віхар клакоча
 Над лесам магілішч, над цьмою бяжыць,
Зрывае запоры і брамы ламоча,
 І крыўда нямее, і змога дрыжыць.

Калісь воклік песьні і сьвет нам адмене,
 Адслоне другія пуціны жыцьця,
Шчасьлівасьці ясьнай узойдуць прамені,
 Аквеціца доляю лепшай зямля.

Дык дай-жа чэсьць песьні на Ўкраіне, за Ўкраінай
 Той кожны, што праўды ня здрадзіў жывой;
І ўспомніце «бацьку», што пеў нязвычайна,
 Што славе ўкраінскай служыў усёй душой.

О, слаўны Ўкраінча, сын верны народу!
 Ты роднага слова ў сябе ня глушыў,
Цярпеў і вучыў, як цярпець у нягодах,
 Аж люд твой паняў, чаго ты яго ўчыў.

На поўдзень, на поўнач, на ўсход, захад сонца,
 На кобзах людзкіх душ твой грае «Кабзар»,
У хатцы, ў палацы, ў цямніцы, ў карчомцы
 Калоціш ты сэрцы, як звонам званар.

І к нам твае слоўца ня раз далятала;
 Мы слухалі ўцешна, што бае сусед.
Цяпер-жа нясём ліст к вянку тваёй хвалы,
 Прымі, брат, і наш беларускі прывет!

**Янка Купала**

# Тры Віленскія Мучанікі

## іх паходжаньне і накіраванасьць

Нашае нацыянальнае адраджэньне вымагае перагляду ўсяе нашае гісторыі, прадстаўленай нашымі суседзямі, нашае культуры, паходжаньня, мовы і г. д., каб нарэшце вызваліцца ад хвальшывых поглядаў і ўяўленьняў, створаных нашымі суседзямі дзеля духовага паняволеньня нашага народу. Бо апарат насільнага захопніцтва нашага краю ды фізычнага зьняволеньня нашага народу, вялося й вядзецца духовае зьняволеньне пры дапамозе легендаў і выдумак аб нібы супольным этнічным паходжаньні, аднолькавасьці культуры, мовы, рэлігіі; пры дапамозе мітаў аб адвечным «братэрстве», супольнасьці гісторыі, інтарэсаў і г. д. і г. .д.

Духовае паняволеньне народу ёсьць страшнейшае ад фізычнага, бо вядзе ня толькі да служальчасьці ворагу, але й да нацыянальнай сьмерці народу.

У духовых спосабах паняволеньня іншых народаў асабліва выспэцыялізавалася Масква. Адной зь ейных сілаў ёсьць Царква, даўным-даўно пастаўлена на службу расейскіх імпэрыялістычных інтарэсаў. Пры дапамозе Царквы ўдалося ёй укласьці ў нашае рэлігійнае жыцьцё ці-ж мала маскоўскіх элемэнтаў? Назавем хаця-б укосны маскоўскі крыж, цыбулясты стыль цэркваў, змаскавізованую мову царкоўна-славянскую, нутраны выгляд цэркваў, царкоўныя звычаі ў набажэнствах, стары каляндар, царкоўную музыку. Але гэта ня ўсё. Масква сягнула глыбей. Яна стварыла цэлы рад сьвятасьцяў, як цудоўныя іконы, сьвятых мучаньнікаў, сьвятыя мошчы і інш., каб такім чынам праніknуць да душы чалавека ды налажыць на яе нябачныя путы. Такой маскоўскай штучнай сьвятасьцяй ёсьць у нас культ трох Віленскіх мучанікаў, аб якіх і будзе гутарка ў нашым нарысе.

*

Паводле маскоўскай лягенды тры Віленскія мучанікі: Антон, Іван і Астап (Антоній, Іоанн і Евстафій) мелі быць замучаныя з загаду Вялікага Князя Альгерда за праваслаўную веру. Маскоўская Царква, якая прэтэндавала да валоданьня ўсімі землямі з праваслаўным насельніцтвам, ня толькі стварыла гэтую лягенду, але яе «кананізавала», гэта значыць выдуманых мучанікаў зрабіла сьвятымі й устанавіла ў іх чэсьць асобны культ.

Першы раз вестка аб Віленскіх трох мучаніках, быццам пацярпеўшых за Альгерда, зьяўляецца ў маскоўскім летапісе канца 15-га ці пачатку 16-га веку. Летапіс гэты абрываецца на 1493 годзе, і ён нам ведамы з адзінага сьпіску 16 в., у якім не стае апошніх лістоў. Такім чынам, дапускаецца, што названы летапіс паходзіць з пачатку 16 веку. Паводля свайго зьместу гэты маскоўскі летапісны сьпісак ёсьць творам тых маскоўскіх колаў, якія тварылі сцэнтралізаванае Маскоўскае гаспадарства — сэрца будучай расейскай імпэрыі.

Пра Віленскіх мучанікаў у гэтым сьпіску сказана наступнае:

«Того же году (1347) убьенъ бысть от Ольгирда Круглець, нареченныи въ святомъ крещении Еустафии, за правоверную веру християньскую, и положенъ бысть у святаго Николы въ Вильне и съ сродникы своими въ гробе, великими мученикы Антониемъ и Иоаномъ, иже пострадаша за правоверную же веру християнскую и прияста венца небесныя от рукы Господня». (ПСРЛ, т. XXV, 177).

Гэта вестка была пасьля амаль бязь зьменаў перапісана ў іншых маскоўскіх летапісных сьпісках 16—17 в. в., як напрыклад у Сафійскім І, Васкрэсенскім, Сьцепенный кнізе і інш.

Ува ўсіх сьпісках падаецца: 1) той самы год 1347; 2) апавяданьне аб забойстве Альгердам Кругляца-Астапа, які быў пахованы побач раней замучаных Антона й Івана; 3) у царкве сьв. Мікалая ў Вільні.

Як бачым, маскоўскія летапісныя весткі аб трох Віленскіх мучаніках паходзяць з часу 150 гадоў ці больш пазьней панаваньня Альгерда й прыпісванага яму забойства трох праваслаўных вернікаў.

Паўстае адразу пытаньне, як гэты выпадак прасьледу Альгердам праваслаўных вернікаў апісваюць іншыя, немаскоўскія летапісы, сучасныя Альгерду ці крыху пазьнейшыя, а раней шыя за маскоўскія, або іншыя крыніцы, як дакуманты, запісы, повесьці, хронікі і г. д. То-ж сьвятыя мучанікі й іх культ — справа публічная, хрысьціянская, а летапісы і іншыя крыніцы былі пісаныя пераважна духоўнікамі, манахамі, асабліва зацікаўленымі ў рэлігійных справах, прытым такіх, як прасьлед веры паганцамі, як гэта прадстаўляюць Альгерда маскоўскія летапісы.

І вось тут знаходзім поўную цішыню. Нідзе ні слова аб гэтым важным здарэньні. Маўчаць літоўскія шматлікія летапісы 14—15—16 в. в., падробна апісваючы часы панаваньня Гедыміна й Альгерда. Некаторыя зь іх, як напр. Кароткія літ. лет. паходзяць з канца 14 в. ды перадаюць амаль сучасныя падзеі за Альгерда, або повесьць «Літоўскаму роду пачынак» даведзеная да 1381 г. — нічога ня ведаюць пра Віленскіх мучанікаў. Ці-ж можна дапусьціць, што літоўскія летапісы ня былі зацікаўленыя рэлігійнымі справамі або прамоўчвалі нявыгадныя падзеі? Нічога падобнага. Так напр. летапіс Абрамкі, напісаны каля 1495 г. у Смаленску, мае шматлікія прамаскоўскія ухілы, так што нельга прыпісваць яму затайваньня нейкіх нявыгадных Ліцьве здарэньняў. Гэтаксама летапіс Быхаўца, даведзены да 1506 г., перапоўнены рознымі бяз выбару, весткамі, лягендамі, апавяданьнямі рэлігійнага характару, прытым баронячы інтарэсы праваслаўнай Царквы, ні словам не ўспамінае пра культ мучанікаў ці прасьлед хрысьціянства Альгердам. Наадварот, гэты летапіс пад годам 1368 сьцьвярджае адваротнае, што Альгерд быў срогім абаронцам хрысьціянства. Вось што чытаем у Быхаўца:

«І у тот час, калі быў князь вялікі Альгерд на Маскве, а пры нем быў ваявода его Петр Гаштаўт, і сабраўшыся мяшчане Віленскі пагане, і прышлі мочу вялікаю у кляштар, не хоцячы хрысьціянства закону Рымскага меці, і кляштар сожгі, і мніхаў разьвязаўшы на крыж і пусьці і па Вельлі уніз мовячы: з захода есьце слонца прышлі, і на захад зась пайдзіце, што есьце казілі багоў нашых. А гдзе іх пасьцінано, на том месцы і цяпер Божая мука стаіць у саду біскупем. І прыедзець князь вялікі Альгерд да Вільні, тагды Гаштаўт біў чалом велікаму князю Альгерду, абы тых паган, за таковае іх акруценство скараці вялеў, што нявінных законнікаў у так акрутне й неміласьціве паказілі. І князь вялікі Альгерд, сам жалаваў таго вель-

# Самахвальства Хрушчова й савецкая рэчаіснасьць

«Галоўнае для нас, будаўнікоў камунізму, — чалавек. Барацьба за камунізм — гэта барацьба за лепшае жыцьцё для чалавека. Усё ў імя шчасьця чалавека, усё для яго!»

Гэта словы з прамовы Хрушчова, якую ён сказаў на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі нечарназёмнай зоны РСФСР у Маскве 23 лютага г. году. Што меў на ўвазе Хрушчоў, гаворачы аб лепшым жыцьці чалавека, відаць зь ягоных далейшых выказваньняў. Для прыкладу возьмем наступныя ягоныя выказваньні: «нашыя вучоныя папрацавалі й стварылі вадародную бомбу раней, чым яе вынайшлі ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі». Альбо: «нашыя вучоныя й канструктары ў сваіх лябараторыях першымі стварылі міжкантынэнтальную балістычную ракету».

Гэтыя словы Хрушчова ніколі не перакапаюць, што ўсе гэныя бомбы й балістычныя ракеты ёсьць створаныя для лепшага жыцьця чалавека. Не для чалавека яны створаныя, а супраць чалавека. А колькі каштавалі й каштуюць усе гэтыя бомбы, балістычныя ракеты й спадарожнікі для савецкіх працоўных масаў, Хрушчоў не сказаў. Таксама як і не сказаў нічога болей канкрэтнага, у чым заключаецца ці будзе заключацца тое «лепшае жыцьцё чалавека».

Як выглядае жыцьцё савецкіх людзей у запраўднасьці, можна даведацца з савецкіх газэтаў, не з прапагандовых прамоваў камуністычных верхаводаў, а з рубрыкаў пад агульнымі загалоўкамі «Лісты ў Рэдакцыю» (у беларускім савецкім жаргоне «Пісьма ў Рэдакцыю) і «Па сьлядох нашых выступленьняў». Вось факты савецкага жыцьця без прапагандовых прыкрасаў. Цытуем за газэтай «Калгасная Праўда», № 51: «У прыватнасьці калгасьнікі скардзіліся на адсутнасьць добрага магазына ў вёсцы Малыя Дольцы Цяперашні разьмешчаны ў вельмі цесным памешканьні. Із-за адсутнасьці спэцыяльных паліцаў хлеб ляжыць навалам проста на прылаўку, мяшок з цукрам — па суседству з бочкай зь селядцамі. Апрача таго, і стаіць магазын у нязручным месцы — заціснуты з усіх бакоў жылымі дамамі. Гэта ніяк не адпавядае проціпажарным запатрабаваньням, бо тут гандлююць і газаю», — скардзіцца нейкі Клопаў.

Гэтая-ж самая газэта скардзіцца, што: «часьцей за ўсё на жывёлагадоўчай фэрме бачыш такую карціну. Падвесная дарога не працуе, — зламаліся пераводныя стрэлкі. Глыбінная шчыліна, на прабіўку якой затрачана многа сяродкаў, не дае вады — сапсавалася помпа. З-за гэтага-ж бязьдзейнічаюць аўтапаілкі. Кармапрыгатавальныя машыны стаяць, а людзі ўсё робяць уручную. І рэдка знойдзеш такую фэрму, дзе-б дзейнічала ўсё абсталяваньне. Электрыфікацыя фэрм, як правіла, зводзіцца толькі да асьвятленьня. Амаль ня ўжываецца й так званая малая мэханізацыя».

Аўтары артыкулу ставяць пытаньне «Чаму?» і даюць тут-жа адказ вуснамі старшыні калгасу імя Сталіна Ськідзелскага раёну, Абуховіча. Ён гаворыць «таму, што на жывёлагадоўчых фэрмах няма мэханізатараў». Адказ гэты нікога не здавальняе, у тым ліку й аўтараў артыкулу.

Савецкая прапаганда ўсімі сіламі стараецца перакапаць, што Беларуская ССР па колькасьці выпуску спэцыялістых перагнала такія краіны, як Англія, Францыя, Галяндыя й Бэльгія, а ў сельскай гаспадарцы ня то, што іх бракуе, але зусім няма. Дзе-ж тыя выпускнікі? Напэўна будуюць камунізм у Сібіры. Ды й ці-ж трэба быць вялікім спэцыялістым, каб зьмяніць праводную стрэлку ці паправіць помпу? Справа ў тым, што няма запасных частак — старая праблема ў Савецкім Саюзе, аб якой вельмі добра ведаюць і аўтары артыкулу. Таму й даюць адказ на пастаўленае імі пытаньне вуснамі старшыні калгасу, бо сказаўшы праўду — можна папасьці ў лік «ворагаў народу», а хлусіць — сумленьне не пазваляе. Чыста савецкі мэтад заграбаць жар чужымі рукамі. Гэтыя факты найярчэй паказваюць нам, як выглядае гэтак званае лепшае жыцьцё калгасьнікаў у рэчаіснасьці.

Як дбае камуністычная партыя на чале з Хрушчовам што датычыцца абслугоўваньня насельніцтва, як выглядае праслаўтае» хрушчоўскае «ўсё для чалавека» — даведваемся таксама зь лістоў у рэдакцыю. Вось яны: Жыхар з Оршы, Гурэвіч, напісаў ліст-скаргу ў газэту «Зьвязда», № 48, што купіў буфэт першага гатунку, а пры распакоўцы дома выявілася, што «люстэрка дрэннай якасьці, ніжнія створкі й высаўныя шуфляды ледзь расчыняюцца, ручкі зламаныя». Цікава тады, як выглядаюць савецкія мэблі другога гатунку, а ён напэўна ёсьць, калі ёсьць першы гатунак.

Газэта «Зьвязда», № 41, зьмясьціла ліст у рэдакцыю пад загалоўкам «Начная трывога», які вельмі добра паказвае, як разьвіта ахова здароўя ў БССР, як разьвіты транспарт, а як разьвіта савецкая прапаганда. Вось вытрымкі зь ліста: «Позьнім вечарам работніца саўгасу Надзея Караткевіч, якая жыве ў вёсцы Сокал Барысаўскага раёну, адчула моцны боль. Мы, суседзі хворай, пабеглі за пяць кілямэтраў да фэльчара, а яго няма дома — кудысьці тэрмінова выклікалі... Пазваніць у горад і выклікаць машыну хуткай помачы мы не змаглі, бо Бродаўская тэлефонная станцыя ў вячэрні й начны час не працуе. Хворая так і не атрымала мэдыцынскай дапамогі, да самай раніцы крычала ад болю. А мы ў дваіх цёмнай ноччу ў дождж прайшлі каля 20 кілямэтраў у пошуках лекара...» І яшчэ. «Навет пры нязначнай хваробе нам рабочым даводзіцца траціць многа часу. Каб атрымаць бальнічны лісток, трэба йсьці пешшу 12 кілямэтраў у Кішчана-Слабаду, затрачваць цэлы рабочы дзень, а часам навет і два. Няма ў нашым і ў суседніх мэдпунктах і зубнога лекара. Чалавек вымушаны зноў ехаць у Барысаў і нярэдка затраціць цэлы тыдзень, каб прайсьці курс лячэньня...»

Вось як выглядае хрушчоўскае «лепшае жыцьцё» савецкіх грамадзянаў у гэтак званай перадавой і прагрэсыўнай краіне сьвету, у цьвярдыні камунізму. Хто й калі выклікаў фэльчара да хворага чалавека? Гэта дапушчальна толькі ў недаразьвітых краінах Азіі, Афрыкі і... ў Савецкім Саюзе.

Гэты стан рэчаў будзе цягнуцца так доўга, пакуль існуе маскоўская імпэрыя, няважна якога колеру. Цяперашнія савецкія грамадзяне змогуць мець запраўды шчасьлівае жыцьцё толькі ў сваіх вольных і незалежных нацыянальных дзяржавах, калі будзе народ дыктаваць ураду, а не ўрад народу. У іншым выпадку будуць мець толькі прапаганду й абяцанкі крамлёўскіх заправілаў.

**Ул. Сьцяблевіч**

# Пра культурную палітыку Масквы

**(Заканчэньне з папярэдніх нумароў)**

Як-жа ажыцьцяўляюцца ў практыцы разгледжаныя вышэй дырэктывы Масквы адносна гістарычнага мінулага й гістарычнага права нерасейскіх народаў?

Кранемся хоць-бы рэзультатаў Ташкенцкай канфэрэнцыі гісторыкаў, якая адбылася ў травені 1959 году. Як ужо зазначалася на бачынах «Бацькаўшчыны», гэтая канфэрэнцыя была скліканая зь ініцыятывы Акадэміі навук СССР і была прысьвечаная пытаньню... «прагрэсыўнасьці» прылучэньня Сярэдняй Азіі да Расеі! Канфэрэнцыя назвалася «навуковай», але, пад узьдзеяньнем партыйных цівуноў, якім, здавалася-б, ня выпадала паказвацца на навуковую канфэрэнцыю, ды й пад музыку Масквы, яна ўжо пры адкрыцьці запісала, што прылучэньне Сярэдняй Азіі да Расеі сталася вялікім здарэньнем у жыцьці сярэдняазіяцкіх народаў, найлепшым разьвязаньнем іхнага гістарычнага лёсу, адным словам — «глыбака прагрэсыўным» здарэньнем.

Чаму? Таму што расейская каляніізацыя не дапусьціла ангельскую каляніізацыю Сярэдняй Азіі, прынесла туды расейскую культуру, якая пасьлей садзейнічала разьвіцьцю «перадовага рэвалюцыйнага руху» й «поўнаму нацыянальнаму вызваленьню» сярэдня-азіяцкіх народаў.

Тут, ведама, разумеецца гэты парасток «перадавога ленінізму» й так званая актуальная «ленінская нацыянальная палітыка». Вынік: сярэдняазіяцкія народы ня могуць зьвяртацца да свае гісторыі, разглядаць яе ў нацыянальным сьвятле, тым больш у святле супраціву расейскім заваёвам — гэта «рэакцыя», «агентура» колішняга ангельскага, а цяпер амэрыканскага імпэрыялізму. Пацяг да нацыянальнага, да аб'ектыўнага будзе разглядацца як праява «буржуазнага нацыяналізму». Сярэдняазіяцкія гісторыкі павінны заўсёды выходзіць з таго, што Расея прынесла сярэдняазіяцкім народам «гістарычнае вызваленьне» ды ўсялякімі спосабамі выяўляць гэтыя «прагрэсыўныя вынікі», выслаўляючы адначасна расейскі народ як свайго вызвольніка й збаўцу й бэсьцячы нацыянальную дастойнасьць і гісторыю сярэдняазіяцкіх народаў.

Ведама, гэтыя палажэньні пра «прагрэсыўнасьць прылучэньня Сярэдняй Азіі да Расеі адносяцца ў аднолькавай меры таксама й да другіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Пра гэта сьветчаць рэзультаты другіх шматлікіх падобных канфэрэнцыяў, што апошнімі гадамі адбыліся ў Маскве й у іншых нацыянальных рэспубліках; пра гэта сьветчыць нарэшце гістарычная літаратура апошняга часу.

Вышэй мы бегла кранулiся інструкцыі ЦК КПСС з 6 травеня 1960 году для кампартыі Грузіі, у якой зьвярталася ўвага Масквы на шматлікія выданьні літаратуры з «далёкага мінулага» грузінскага народу з адхіленьнем да «ідэялізацыі» гэтага мінулага. Атрымаўшы гэтую інструкцыю, кампартыя Грузіі ў сваю чаргу 17 травеня выносіць адмысловую пастанову ў гэтым кірунку, склікаючы на 31 травеня нараду працаўнікоў больш адказных выдавецтваў і навуковых установаў. На нарадзе выступілі першы й другі сакратары кампартыі Грузіі. Яны, спасылаючыся на інструкцыю Масквы з 6 травеня, зь месца навальваюцца на грузінскую інтэлігенцыю, на рэспубліканскія выдавецтвы, у тым ліку й Акадэмію навук Грузінскай ССР, абвінавачваючы іх у «палітычнай» і «ідэялягічнай» нясьпеласьці й памылках, якія заключаюцца ў тым, што «шмат» выдавалася гістарычнай і мастацкай літаратуры з нацыянальнай тэматыкі, зь гісторыі грузінскага народу.

Згодна іх асьветчаньня, падобныя «ідэялягічныя» памылкі ў далейшым павінны быць пераадоленыя й пераадоленыя наступным чынам: а) шляхам «камуністычнага» ўзгадаваньня творчых і навуковых сілаў і працаўнікоў выдавецтваў; б) шляхам забароны выданьня гістарычнай і мастацкай літаратуры на нацыянальную тэматыку і зь гісторыі; в) шляхам узмацненьня партыйнага кантролю над выдавецтвамі, над дзейнасьцю навуковых установаў і паасобнымі навукоўцамі ці літаратарамі; г) шляхам выданьня літаратуры на актуальную тэматыку.

Да чаго ўсё гэта ськівавана, паясьніў на нарадзе першы сакратар кампартыі Грузіі В. Мжаванадзе, зазначаючы, што «наша гісторыя — гэта гісторыя брацкай дружбы зь іншымі народамі, і перадусім з расейскім народам. У летапіс гэтай шматстагодняй дружбы выдатныя старонкі ўпісалі Пушкін, Лермантаў, Грыбаедаў, Талстой, Чайкоўскі, Горкі, Шаляпін, Маякоўскі й шматлікія другія. Якая шляхотная тэма для гісторыка, дасьледавальніка, пісьменьніка — Грыбаедаў і Грузія!».

Гэты выпадак з Грузіяй таксама ня вынятковы. Напрыклад, згодна таго-ж прымусу Масква на ўрачыстасьцях, прысьвечаных 20-годзьдзю прылучэньня Прыбалтыкі да СССР, сакратар кампартыі Латвіі А. Восс таксама павінен быў асьведчыць: «...Мы павінны праводзіць пасьлядоўнае змаганьне супраць буржуазна-нацыяналістычных праяваў... У лекцыйнай, прапагандовай працы неабходна раскрываць клясавыя асновы буржуазнага нацыяналізму, паказваць яго як ідэялёгію й палітыку варожасьці між народамі, як ідэялёгію й палітыку прадажы нацыянальных інтарэсаў працоўных». Разам з гэтым ён зьмешвае з брудам нацыянальную гісторыю й нацыянальныя пачуцьці прыбалтыцкіх народаў, паказваючы адначасна расейскі народ у васобе адзінага магчымага збаўцы ды прапануючы прыбалтыцкім народам сьхіліць галаву перад ім, пераняць ягоную культуру й гісторыю, апець «гістарычныя карэньні дружбы» з расейскім народам.

Праўда, трэба прызнаць, што цяпер можна пачуць пра 10-ці томныя выданьні зь гісторыі нерасейскіх народаў, пра пляны, у якія ўключаныя шматлікія манаграфіі па тых ці іншых праблемах гісторыі гэтых народаў. Гэта — першае зьявішча ў гістарыяграфіі нерасейскіх народаў, пачынаючы ад першай сталінскай чысткі. Навет зь 1958 году ў нацыянальных рэспубліках уведзены асобны школьны курс з нацыянальнае гісторыі. Аднак... «сталінскае галавакружэньне ад усьпехаў»!

З гэтым расшырэньнем дасьледваньняў зь гісторыі нерасейскіх народаў узмоцніўся й нагляд Масквы над рэспубліканскімі гісторыкамі.

Як ведама, ужо з даўняга часу пры Акадэміі навук СССР існаваў так званы Савет па каардынацыі дзейнасьці акадэміяў навук саюзных рэспублік і філіялаў АН СССР у аўтаномных рэспубліках. Ня гледзячы на тое, што правамоцтвы гэтага Савету апошнімі гадамі даволі разрасьліся, пры той-жа Акадэміі навук СССР у канцы 1957 і на працягу 1958 гадоў створаныя іншыя так званыя Навуковыя саветы й групы, як Навуковы савет па гісторыі сацыялістычнага й камуністычнага будаўніцтва; Навуковы савет па гісторыі нацыянальна-вызвольнага змаганьня народаў супраць каляніялізму; Навуковы савет па гісторыі бальшавіцкай рэвалюцыі; Навуковы савет вывучэньня гістарычных перадумоваў гэтай рэвалюцыі; Навуковы савет па генэзісу капіталізму й г. д. Бяз маласьці ўсе яны ачоленыя Расейцамі, а іхныя заданьні — гэта плянаваньне й каардынацыя гістарычных дасьледваньняў у маштабах усяго Савецкага Саюзу, плюс кантроля й так званая «брацкая дапамога» над гісторыкамі й гісторыкам нацыянальных рэспублік.

Апошнія правамоцтвы ажыцьцяўляюцца шляхам даваньня дырэктываў па тых ці іншых праблемах гісторыі нерасейскіх народаў на супольных канфэрэнцыях і нарадах гісторыкаў, а таксама шляхам «дапамогі» рэспубліканскім гісторыкам у напісаньні тых ці іншых працаў зь гісторыі гэтых нерасейскіх народаў і шляхам рэцэнзаваньня ў Маскве працаў, напісаных рэспубліканскімі гісторыкамі.

На прыкладзе Ташкенцкай канфэрэнцыі мы маглі наглядна ўпэўніцца, які эфэкт прыносяць супольныя «творчыя» канфэрэнцыі скліканыя цэнтрам. Каб ня быць галаслоўным у другім выпадку, тут мы зацытуем толькі паведамленьне Інстытуту гісторыі АН СССР пра сваю дзейнасьць 1959 году. У ім сказана: «У мінулым (г. зн. у 1959 годзе) калектыў гэтага інстытуту правёў вялікую працу па рэдагаваньню й рэцэнзаваньню навуковых працаў, якія падрыхтоўваюцца філіяламі АН СССР, а таксама інстытутамі саюзных і аўтаномных рэспублікаў. Часам навуковыя супрацоўнікі прыймалі беспасярэдні ўдзел у паасоб-

**(Заканчэньне на 8-ай бачыне)**

---

Вось-жа Густынскі сьпісак падае тры важныя весткі, зьвязаныя зь Віленскімі мучанікамі: 1) аб замучаньні іх у 1328 г.; 2) аб іх кананізацыі мітр. Аляксеям у 1355 г.; 3) аб існаваньні ў канцы 16 веку ЖЫЦЬЦЯ мучанікаў.

Сьмерць мучанікаў падаецца ў 1328 г., а не ў 1347, як у маскоўскіх летапісах. Дата гэтая (1328) ўзятая з Жыцьця мучанікаў і зьвязаная зь мітрапалітам Тэагностам:

> «Теогност митрополит Кіеву посвященъ есть отъ патриарха (1328). Въ то время за Олгирда князя въ Литве пострадаша мученици, Евстафій, Антоній, Іоаннъ, якоже о томъ пространнее въ житіи ихъ» (ПСРЛ II, 282).

У іншым месцы пад годам 1355 гаворыцца, што мітр. Аляксей устанавіў 14 красавіка ў чэсьць трох мучанікаў: Астапа, Антона й Івана.

У параўнаньні з маскоўскімі летапісамі маем тут разыходжаньні ў датах сьмерці мучанікаў. Гэта сьветчыць, што Густынскі летапіс ня сьпісаў весткі аб іх з маскоўскіх летапісаў, але зь існуючага тады ЖЫЦЬЦЯ мучанікаў, на што й пакліkaецца. Такім чынам год 1328 ня ёсьць прыпадковай выдумкай летапісца, і ён праўдзівы адносна пастаўленьня Тэагноста на пасад Маскоўскага мітрапаліты. Гэта значыць, што першы сьлед лягенды быў недзе запісаны ў мітрапольных маскоўскіх кнігах у зьвязку з пастаўленьнем Тэагноста. Разьвіцьцё лягенды мусіла наступіць крыху пазьней ужо за часоў Альгерда, калі барацьба з Масквой завайстрылася. Такім чынам у ЖЫЦЬЦЁ мучанікаў папала дата 1328 і яе неадпаведнасьць «въ то время за Олгирда». Маскоўскі летапіс пачатку 16 в. спасьцярог гэтую недарэчнасьць ды паправіў на 1347 г., калі, паводля іншых летапісных запісаў, Альгерд напэўна быў вялікім князем Літоўскім.

Новы мітрапаліт маскоўскі Аляксей, заняўшы пасад у 1354 г., мусіў застаць ужо закончаную лягенду, бо зараз-жа яе «кананізаваў» (1355) і вызначыў 14 красавіка ў чэсьць Віленскіх мучанікаў.

Аб барацьбе мітр. Аляксея з Альгердам маем некаторыя весткі. Альгерд у сваім лісьце да Канстантынопальскага патрыярха ў 1371 г. абвінавачвае Маскоўскага мітрапаліта ў наступным: «мітрапаліт, маючы ўладу багаслаўленьня ад патрыярха самога, багаслаўляе Маскву на праліцьцё крыві ў войнах зь Ліцьвой. Ніколі не адведвае Літоўскіх япархіяў, ня бывае ў Кіеве. Хто толькі з Альгердам на знак дружбы пацалуе Крыж, а потым нарушыць прысягу й прыстане да Масквы, мітрапаліт звальняе яго ад найбольшай прысягі» (Рус. Ист. Биб. VI, № 24).

Із свайго боку мітрапаліт Аляксей, як гарачы абаронца маскоўскіх інтарэсаў, кідаў анатэмы на ўсіх князёў і япіскапаў, каторыя лучыліся з Альгердам супраць Масквы. У яго ўяўленьні Літоўскае праваслаўе не заслугоўвала на назоў хрысьціянства. Ён называў яго паганскім, прасякнутым паганскімі звычаямі, каторыя вядуць да цяжкіх грахоў. Якія гэта звычаі, даведваемся з пазьнейшага пашыранага ЖЫЦЬЦЯ мучанікаў: неперасьцераганьне срогае пастоў, ненашэньне мужчынамі доўгіх валасоў, — звычаі ўплываў заходняй царквы. Таму вайну супраць Альгерда й Ліцьвы мітрапаліт Аляксей уважаў за сьвятую ў імя найвышэйшых ідэялаў хрысьціянства, а маскоўскую канчатковую перамогу, якой спадзяваўся, уважаў за знак перамогі Крыжа над найбольшымі ворагамі Хрыста (Рус. Ист. Биб. VI, № 16—21, б. 97).

Такая фанатычная барацьба мітрапаліты Маскоўскага з Альгердам, калі нанова пастаўлена была незалежная Літоўская мітраполія, сягаючая сваімі ўплывамі ў землі, суседнія з Масквой, і стварыла культ Віленскіх мучанікаў, каб прадставіць Альгерда ў вачох вернікаў, асабліва земляў блізкіх да Масквы, як Цьвер, Разань, Ноўгарад, як нявернага, паганца, прасьледніка «прававерпай веры хрысьціянскай», а гэтым самым адвярнуць іх ад Ліцьвы.

*

Каб лепш зразумець, як паўстала лягенда аб трох Віленскіх мучаніках у пару Альгерда, зробім экскурсію ў бок другой лягенды, якую тварыла тая-ж Масква ў пару Ягайлы, калі нібы былі замучаны два праваслаўныя высока-пастаўленыя баяры ў Вільні за адмову паўторнага хросту й пераходу на каталіцтва.

Лягенда гэтая ў найстарэйшым выглядзе зьявілася ў канцы 15 ці на пачатку 16 в. у Ноўгарадзкім IV зборным летапісе, дзе пад 1386 г. падаецца баламутная (як заўсёды ў лягендах) вестка:

> «Тото жо году Ольгердовъ сынъ Ягайло князь Литовский ехалъ женитися въ Угорскую землю къ королю, и тамо женився крестился в Немецкую веру, а Скиргайло, брат Ягайловъ ходилъ ратью съ Литовскою силою и съ Немецкою под Полтескъ и взя городъ, и Ольгердеева сына убиша. А само Ондрея брата своего изымалъ и въ Литву свелъ а Ягайло выиде изъ Угорской земли въ свою отчину въ Литовскую землю и крести Литву въ Немецкую веру, половину своего города Вильна, а два большая Литвина Ягайлова крещени въ крестьянскую веру, и ти не крестишася въ его веру и Ягайло казни ихъ смертію» (ПСРЛ т. IV. 94-95).

Баламутнасьць гэтай весткі выяўляецца ў памяшаньні праўдзівых і непраўдзівых розных фактаў. У 1386 г. Ягайла запраўды жаніўся зь Ядзьвігай, каралевай Польшчы, дачкой вугорскага й польскага караля Людвіка, толькі ня езьдзіў у Вугоршчыну да караля, бо тады ўжо яго ня было ў жывых, але ў Кракаў. Там-жа ён перайшоў з праваслаўя на лацінскі абрад, або, як прынята называць, у каталіцтва. Паход Скіргайлы меў месца раней у 1382, а хрост Ліцьвы пазьней — у 1387 г. Андрэй Полацкі ня быў узяты ў палон, але спачатку ўцёк у Пскоў, а пасьля ў Маскву. Ягоны сын ня быў забіты ў Полацку, але загінуў, як калябарант маскоўскі ў змаганьні з Разанскім князем Алегам у 1385 г. (ПСРЛ XXV, 212). Непраўдзівай, ведама, ёсьць вестка аб замучаньні двух баяраў Ягайлам, як гэта вынікае зь ніжэй пададзенага матарыялу.

**(Заканчэньне будзе)**

**В. Пануцэвіч**

